


*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі! Францішак БАГУШЭВІЧ*

# наша СЛОВА

№ 32(42) ● 25 ВЕРАСНЯ — 1 КАСТРЫЧНІКА 1991 г. ● Штотыднёвік Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны
Кошт 10 кап. (па падпісцы — 5 кап.)

## Поступ тыдня

*СТАРШЫНЁЙ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА Рэспублікі Беларусь абраны Станіслаў Станіслававіч Шушкевіч, які, мяркуецца, мае намер сфарміраваць «каманду дэмакратычнага цэнтра».*

АКАДЭМІЧНАЯ РАДА ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ Ф. СКАРЫНЫ ВЫКАЗАЛА ПРАПАНОВУ ЗАЦВЕРДЗІЦЬ У ЯКАСЦІ ГІМНА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ВЕРШ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА «ПАГОНЯ», што дазволіла б, як лічаць, дасягнуць унікальнай адпаведнасці паміж гербам і гімнам.

**У ЧАС ВІЗІТУ старшыні Саўміна рэспублікі В. Ф. Кебіча ў Рэспубліку Карэя яе прэзідэнт Ро Дэ У паабяцаў зрабіць усё, каб адносіны паміж Карэяй і Беларуссю сталі эталонам адносін паміж дружалюбнымі дзяржавамі.**

**ПРЫВЫЧНЫ ДЛЯ ЖЫХАРОЎ НАШАЙ КРАІНЫ ДЭВІЗ «КОЖНАЙ СЯМ'І — КВАТЭРУ» ЗАМЕНЕНЫ НА НОВЫ: «ЖЫЛЛЕ ДЛЯ БЕСКВАТЭРНЫХ — СПРАВА РУК САМІХ БЕСКВАТЭРНЫХ». Сённяшняя канцэпцыя беларускага ўрада: забеспячэнне сацыяльных гарантый на атрыманне і набыццё кватэр грамадзянамі, фарміраванне рынку жылля, яго прыватызацыя.**

*Прэзідыум савета Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі прыняў рашэнне стварыць рэспубліканскі забастовачны фонд.*

# Жыве Беларусь!

## 19 верасня беларускі парламент прыняў гістарычнае рашэнне. Цяпер мы — РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ!

### Дзяржаўным гербам зацверджана «Пагоня», статус дзяржаўнага нададзены і старадаўняму бел-чырвона-беламу сцягу, асвечанаму Грунвальдам.

Нілу Гілевічу, старшыні Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны — 60 гадоў.
Стар. 3.

### Японскі прафесар пярэчыць МАГАТЭ



Сваю нязгоду з вывадамі камісіі МАГАТЭ, якія прыніжаюць уздзеянне чарнобыльскай катастрофы на здароўе людзей, выказаў прафесар Хірасімскага НДІ радыелагічнай медыцыны Юкія Сата. Да такога вываду вядомы японскі паталагаанатам і яго калегі прафесары медыцыны тэрапеўт Кіра Кімура і гематолаг Нобуа Агума прыйшлі пасля ўласных даследаванняў, якія правялі сумесна з савецкімі медыкамі на Гомельшчыне.

На здымку: плённым было супрацоўніцтва (злева направа) урача аддзялення рэанімацыі Гомельскай абласной дзіцячай бальніцы Эдуарда Льва, галоўнага паталагаанатама Гомельскай вобласці Валерыя Чэрныша і японскага прафесара Юкія Сата.

Фота Івана ЮДАША (БЕЛТА).

## Беларускае Адраджэнне ў святле друку

### Зянон ПАЗЬНЯК: Беларусь незалежная некамуністычная краіна

**Зянон Пазьняк, лідэр БНФ, даў інтэрв'ю газеце «Навіны». У ім выказаны погляд кіраўніцтва Народнага Фронту «Адраджэнне» на старыя структуры ўлады, што склаліся ў Рэспубліцы Беларусь за апошні час, і намечаны задачы па стварэнню новых. «У рэформе структуры ўлады,— гаворыць З. Пазьняк,— мы адсталі ад Балтыйскіх краін на паўтара года. Цяпер як незалежная дзяржава мы павінны сфарміраваць свае структуры ўлады і свае структуры абароны гэтае ўлады паскоранымі тэмпамі. Ініцыятыва народа ў гэтай справе шмат у чым паскорыць яе рэалізацыю».**

**На пытанне аб тым, у якой ступені рычагі выканаўчай улады, сканцэнтраваныя ў руках В. Кебіча, адпавядаюць пераменам, лідэр БНФ адказаў: Вячаслаў Кебіч, безумоўна, не той чалавек, які патрэбны цяпер. Гэта былы член бюро ЦК КПБ, які насуперак сваім абяцанням, дадзеным парламенцкай апазіцыі БНФ, не выйшаў з кампартыі, а толькі прыпыніў сваё членства ў ёй. Але нават калі б ён цалкам перайшоў на бок дэмакраты, яму было б цяжка працаваць у цяперашніх, наскрозь пракамуністычных структурах. Ён дзейнічае ў рамках былых апаратных сувязей і вельмі нерашуча. Момант патрабуе рашучых кадравых змен (маюцца на ўвазе людзі, якія падтрымалі хунту), рашучых рэформаў. Калі гэта не будзе зроблена, пытанне аб роспуску Саўміна стане адназначным. Праблема ўпіраецца таксама ў цяперашні склад Вярхоўнага Савета рэспублікі, што не здольны сфарміраваць кампетэнтны дэмакратычны кабінет. Таму найперш трэба распусціць гэты Вярхоўны Савет, правесці новыя выбары, і толькі тады можна будзе заняцца сапраўднай рэформай ўлады.**

**З. Пазьняк таксама лічыць неабходным зняць са сваіх пасад Г. Тарнаўскага, пракурора рэспублікі, Л. Дашука, міністра юстыцыі, і А. Сталярова, старшыню Дзяржтэлерадыё Беларусі, якія падтрымалі хунту. Прэзідыум Вярхоўнага Савета рэспублікі, згодна з яго меркаваннем, павінен пайсці ў адстаўку, бо ў ім сабраліся людзі, далёкія ад палітыкі і разумення таго, што мы цяпер жывём у незалежнай дзяржаве.**

## І ні слова ў падтрымку беларусізацыі — *Але!*

Абласная газета "Заря" выходзіць на рускай мове. Да беларускай мовы яна займае непрымальна-агрэсіўную пазіцыю. Спашлёмся на некаторыя факты. У мінулым годзе хтосьці Л. Васін напісаў пісьмо ў рэдакцыю і выказаў сваё абурэнне тым, што ў Брэсце пачалі вывешваць шыльды з назвамі вуліц на дзвюх мовах — рускай і беларускай (раней назвы даваліся толькі па-руску).

Супрацоўнік газеты В. Сарычаў, каменціруючы гэты ліст, падтрымаў Васіна. Маўляў, замена назваў вуліц будзе дорага каштаваць («Заря», 28 ліпеня 1990 г.). Штотыднёвік «Літаратура і мастацтва» ад 17 жніўня 1990 г. даў дастойную водпаведзь гэтай шавіністычнай выхадцы газеты. Аднак «Заря» працягвае антыбеларускую «лінію». У нумары ад 22 студзеня гэтага года пад рубрыкай «Пісьмы аб мове» на беларускамоўнай старонцы (іх «Заря» дае вельмі рэдка) змешчана адзінае «пісьмо» нейкай Л. Фінагенавай, якая паўтарае думку В. Сарычава, толькі на гэты раз размова ідзе пра тое, што дорага абыдзецца падрыхтоўка падручнікаў на беларускай мове, якую Л. Фінагенава называе «чужой». «А колькі каштуе душэўны настрой людзей, якіх вымушаюць размаўляць на чужой нам мове»,— абураецца Л. Фінагенава. З гэтых слоў так і выпірае вялікадзяржаўны шавінізм, што так абражае і зневажае нацыянальную годнасць беларусаў. І далей тая ж Л. Фінагенава развівае сваю «філасофію» ў тым жа духу. Яна піша: «Увяім сабе, што ўсе шыльды перапісалі, як таго патрабуе Закон. А ці зменіцца што-небудзь за тымі шыльдамі? Мо ў нашых магазінах стане больш ежы, абутку, адзення, мэблі? Мо паменшацца чэргі?»

Ёсць вялікае падазрэнне, што Л. Васін і Л. Фінагенава — падстаўныя асобы. Хутчэй за ўсё іх лісты пісаліся ў кабінетах рэдакцыі.

А вось свежы прыклад антыбеларускай пазіцыі газеты. 7 жніўня «Заря» змясціла карэспандэнцыю «Изучать надо. Но как?»,у якой нейкі І. Буцько паставіў пад сумненне правільнасць рашэння Баранавіцкага гарвыканкама аб пераводзе на беларускую мову выкладання большасці школ горада (у адпаведнасці з Законам аб мовах у Беларускай рэспубліцы).

У заключэнне хочацца сказаць, што «Заря», нягледзячы на працэс перабудовы, застаецца кансерватыўным антыбеларускім выданнем. На яе старонках вы не знойдзеце ні слова ў падтрымку беларусізацыі. Нацыянальная інтэлігенцыя неаднаразова патрабавала выдаваць газету на беларускай мове, аднак і па сённяшні дзень яна рускамоўная і служыць русіфікатарам. Яе рэдактар на працягу многіх гадоў — П. Суцько.

Лічым, што абвешчаная незалежнасць Беларусі і дзяржаўнасць беларускай мовы застануцца фікцыяй, пакуль газеты і часопісы (большасць) будуць выходзіць на рускай мове.

Алесь МАКСІМУК,
Іван РОШЧАНКА,
Ганна САКАЛОЎСКАЯ —
члены Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны.
г. Брэст.

*Вучымся!*

### Асаблівых цяжкасцей не было

Ва ўсіх 48 першых класах школ Докшыцкага раёна навучанне ў гэтым годзе пачалося на беларускай мове. Як сказаў загадчык РАНА П. Н. Атрахімовіч, пераход на беларускую мову ў нас асаблівых цяжкасцей не выклікаў. Падручнікі былі заказаны загадзя, з бацькамі пагутарылі індывідуальна. Настаўнікі беларускай мовай валодаюць. А напярэдадні яны яшчэ і прайшлі атэстацыю. У гэтым годзе будуць пераводзіцца на беларускую мову рускамоўныя садзікі, якіх, дарэчы, няшмат. Затым паступова будзе пераводзіцца на беларускую мову выкладанне ўсіх прадметаў у трох рускамоўных школах раёна.

І. ФУРСЕВІЧ.
г. Докшыцы.

*У суполках ТБМ*

# «ВЫБРАНЕЦКІЯ ШЫХТЫ» НА СМАЛЕНШЧЫНЕ

Сёлета, у дні першамайскіх свят, «выбранцы» наведалі Смаленшчыну, а дакладней яе заходнюю беларускамоўную частку.

Перад ад'ездам нас праінструктавалі спецыялісты з Беларускай Акадэміі навук, забяспечылі патрэбнай інфармацыяй па пытаннях фальклору і мовазнаўства. Пастаўленыя перад «выбранцамі» задачы выконваліся ахайна, хутка і прафесійна. Уражанняў шмат. Ад людзей, ад іхняй мовы, ад аповядаў пра пражытае жыццё. Сабраны цікавы дыялекталагічны матэрыял, запісаны старадаўнія песні, адшуканы і жывыя сведкі Веліжскага паўстання 1919 года.

Лёс гэтай зямлі вельмі складаны. У мясцовага насельніцтва існуе да гэтага часу рэліктавы крывіцкі патрыятызм і адчуванне ненатуральнасці ў адносінах да іх, ну, напрыклад, уладзімірска-суздальскай расійскай культуры. Да гэтае пары трываюць моцныя сувязі — транспартныя, эканамічныя, чыста чалавечыя — паміж Віцебскам і Веліжам, Оршай, Рудняй і Смаленскам. Гэта нягледзячы на тое, што на Смаленшчыне з году ў год вядзецца прапаганда пра «польско-литовских оккупантов» і «героическую оборону москвитами древнего русского города в 1611 году». Тэлевізія і друк стракацяць словамі пра «врата России» ды «искони русские земли». Але, аддамо належнае гідам, якія ў час экскурсій не забываюць заўважыць: «Мы всё-таки Запад. Поэтому у нас и здания костелов есть и в церквях западное влияние проявляется».

Карэнныя жыхары кажуць: «Мы на граніцы жывём, Беларусь вунь там, дзе лес, таму і мовы вельмі падобныя». Людзі называлі нам словы, якія ўжывалі іхнія бацькі — бульба, тата, цыбуля, пан,— а мы імкнуліся зразумець, як здолелі захавацца беларускія словы за 347 год расійскага валодання гэтымі землямі (1654 год — канчатковае далучэнне Смаленшчыны да Расіі). Яшчэ адзін феномен: паводле перапісу 20-х гадоў Веліжскі павет амаль цалкам насялялі беларусы, а па ўсёй Смаленшчыне колькасць беларусаў дасягала амаль 800 тысяч.

У паслярэвалюцыйны час тут існавалі беларускія школы, Белнацком (Беларускі нацыянальны камісарыят). Нават сучасную БССР у 1919 годзе бальшавікі стварылі ў Смаленску. А пасля... А пасля жорсткі збройны чын, разня і расстрэлы. Паўстанне на чале з Нілёнкам тутэйшыя людзі памятаюць да сённяшняга часу. Пра гэта спяваюць у песнях.

У Віцебску дождж ідзе,  
а ў Вяліжы склізка.  
Хавайцеся, бальшавікі,  
бо Нілёнак блізка.

...Пад пагрозаю перасялення знікалі апошнія беларусы па пашпартах, а нацыянальная свядомасць затыркалася коркам страху.

Але Дзвіна, як і раней, нясе ваду да Балтыкі, віруе і паўнее. А людзі называюць сябе крывічамі, а сваю дэмакратычную газету — «Сход».

Вось такі ён, наш Усход і крайні расійскі Захад, засыпаны камянямі, заліты вадою, багаты на самабытную беларускую па зместу і мове культуру.

Шчыбятнічку, гылабятнічку,  
Хрістос уваскрес, сын Божій!  
Сідзеў голуб на дубочку.  
А Йванечка, маладзечэнькый,  
ён і цэліцца, ён і меціцца,  
хочэць арла зыстрыліці.  
Стаў яму арёл гываріці:  
«А ня бі ж міне, не губі міне,  
а я ж табе зныдаблюся.  
А як будзеш жаніцісі,  
перавязу цябе серядзі себе,  
а жану тваю на крылышку,  
а яроха* на хахольчыку.  
А яроху — решета гароху,  
решета гароху, кусок сала,  
кусок сала — пальцы пумазаць,  
каб яго пальцы громка йгралі,  
громка йгралі, перабор бралі...»

Спявала нам гэту валачобную («Хрістову») песню бабуля Дар'я Нахаева ў старой перакошанай хаце. Гэта адзін з найстаражытнейшых сюжэтаў беларускага спеўнага фальклору.

Ігар МІХНО.

* Ярох — музыкант.

*Чыталі?*

## Звычным спосабам штампоўкі

Ці ўмеюць беларусы гаварыць па-беларуску?..

Нядаўна набыў чарговую кніжку серыі «Гарады Беларусі», што выйшла ў выдавецтве «Полымя».

Аповяд пра адзін з найцікавейшых гарадоў — Баранавічы — вядзецца па-расійску. Няўжо ж аўтары — Валерый Антонавіч Алешка і Міхась Іванавіч Пацёмкін — не ведаюць беларускай мовы? Спрацоўвае зусім не клопат пра тое, што, маўляў, выдадзеная па-расійску кніга разыдзецца шмат хутчэй. Гэта сіндром псеўдаінтэрнацыялізму, самападман у арыентацыі. Да таго ж расійская мова «дазваляе» не дбаць пра літаратурныя вартасці тэксту. Знаёміцца ж з кнігай, на думку аўтараў, будзе носьбіт «трасянкі».

Уважлівы позірк на серыю «Гарады Беларусі» пераконвае, што стаўленне аўтараў да мовы распаўсюджваецца і на сам матэрыял. А пра якую гістарычную свядомасць аўтараў можна казаць, калі са 125 кніжных старонак у нарысе «Баранавічы» толькі шэсць з паловай асвятляюць дакастрычніцкую гісторыю горада? Прызвычаіўшыся вінаваціць ва ўсім выдавецкіх рэдактараў, мы забываемся на галоўнае: кнігі пішуць не рэдактары, не дырэктары выдавецтваў, а літаратары, журналісты, краязнаўцы. І я не веру ў тое, што ў рукапісе кнігі пра Баранавічы гістарычнага матэрыялу было шмат болей, чым данесена да чытача. «Баранавічы» і яму падобныя нарысы штампуюцца па жахлівым узоры дзесяці-дваццацігадовай даўнасці. А дапамагае гэткім кнігам выходзіць у свет своеасаблівае апраўданне: гэта ж толькі «гістарычна-эканамічны нарыс». Але дзе тады сапраўдная гісторыя, дзе грунтоўны разгляд культурнага і эканамічнага развіцця?

У прадмове да нарыса пра Баранавічы гаворыцца: «Кожны горад мае свой лёс». А які лёс маем мы, куды ён нас завядзе, калі на мову родную будзем забывацца? Што да чытача краязнаўчай літаратуры, то беларускую мову ён ведае.

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

*Але!* *Але!*

# ЖЫВЫ КАМПАРТЫЙНЫ КУРЫЛКА!

«Мы и время» зноў выходзіць? Як ні дзіўна, але... Канечне, вырашаць лёс газеты ў большай ступені права чытачоў, чым каго іншага. Хаця цяжка ўявіць, як тое адбываецца, калі як быццам бы зачынены доступ да кампартыйнай касы. Тым не менш, нават «большую частку трат на перасылку газеты за межы рэспублікі рэдакцыя бярэ на сябе»(!). Яно, канечне, грэх зайздросціць багатаму, аднак пасля ўсяго, што адбылося, грамадства ўсё ж павінна ведаць, адкуль што бярэцца.

Нядаўна гадаванка парткама Менскага гадзіннікавага завода, якая бэсціла дэмакратычны рух і нават практычна здзекавалася над памяццю ахвяр бальшавіцкага тэрору, цяпер абвяшчае сябе «незалежнай левай (?) газетай», сцвярджае: яна «для тых, каму дарагія сумленне (?!), ... абавязак перад «отечеством» (?); шукае паплечнікаў па ўсёй краіне. Дзеля чаго? Каб хутчэй вырашыць праблемы з развіццём нацыянальнай культуры і пашырэннем ўжывання беларускай мовы? Ці гэта ўсё ж адзін з рупараў тых, хто прагне рэваншу насля правалу нядаўняга ваенна-бальшавіцкага путчу?

Не дарэмна ж «Мы и время» працягвае выходзіць на мове, на якой толькі і размаўляе імперскае чыноўніцтва, галосячы пра «развал» камуністычнага Саюза. І ці не пра гэта абвяшчае газета, калі піша пра «нястрыманы боль...» і нейкую «новую рану на замучаным целе Айчыны»?

І для такога рупара ў Менску знаходзіцца ўсё — папера, сродкі, каб распаўсюджваць выданне нават за межамі рэспублікі? Знаходзяцца таксама друкарскія магутнасці ў тым самым з нядаўняга часу «Беларускім (!) Доме друку», начальства якога не аднойчы скардзілася, што абсталяванне канае ад перагрузкі. Для каго канае, а для каго — калі ласка?

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

*Пытанне — адказ*

# Як пісаць лацінкай?

*Шаноўнае «Наша слова», прадпрымальніцкая дзейнасць вымушае мяне карыстацца камп'ютэрам з лацінкай. Ёю цікавіцца і яшчэ шмат хто з моладзі, таму прашу змясціць у «Нашым слове» правілы напісання беларускіх літар лацінкай і прывесці прыклады напісання характэрных слоў.*

*Л. БАНДЗЕВІЧ, г. Мінск.*

Такія просьбы выказваюць і іншыя чытачы. На жаль, у друкарні, дзе выпускаецца «Наша слова», няма наборнай машыны з лацінскім шрыфтам. Таму, каб задаволіць пажаданні нашых чытачоў, мы вырашылі перафатаграфаваць некалькі старонак з падручніка «Лемантар», які выдадзены ў Злучаных Штатах Амерыкі (Нью-Йорк, 1964г.). Гэта параўнальная табліца напісання беларускіх літар кірыліцаю і лацінкаю, казка «Вавёрка і воўк» і невялічкі ўрывак з верша. Спадзяёмся, публікацыя дасць магчымасць тым, хто цікавіцца лацінкай, зразумець правілы напісання некаторых слоў, а разам з тым і абазначэнне мяккасці на пісьме, якія прыняты ў нашых суродзічаў-эмігрантаў.

Л. Б.

## Параўнаньне кірыліцы з лацінкай

| | | |
|---|---|---|
| а - a | і - i | ў - ŭ |
| б - b | й - j | ф - f |
| в - v | к - k | х - ch |
| г - h | л - ł, l | ц - c |
| ґ - g | м - m | ч - č |
| д - d | н - n | ш - š |
| е - je, (i)e | о - o | ы - y |
| ё - jo, (i)o | п - p | э - e |
| ж - ž | р - r | ю - ju, (i)u |
| дж - dž | с - s | я - ja, (i)a |
| з - z | т - t | ь - (') |
| дз - dz | у - u | ' - ' |

### VAVIORKA J VOŬK

Voŭk, najeŭšysia, spaŭ u lesie pad drevam. Vaviorka pa drevie skakała z sučka na sučok, i zvaliłasia na vaŭka. Voŭk chacieŭ jaje źješci. Ale vaviorka pačała prasicca:

— Puści mianie.—

Voŭk skazaŭ:

— Dobra, ja pušču ciabie, ale ty skažy mnie čamu vy vaviorki zaŭsiody hetkija viasiołyja j šustryja, a my vaŭki złosnyja j panuryja?—

Vaviorka jamu adkazała:

— Pierš adpuści mianie na dreva, dyk ja skažu tabie, ato ja bajusia ciabie. —

Voŭk nia byŭ hałodny, dyk puściŭ jaje. Vaviorka skoknuła na dreva j pramoviła:

— Vy vaŭki zaŭsiody panuryja j złosnyja, bo złość vam serca pierajeła. My zaŭsiody viasiołyja j šustryja, bo my nikoli nikomu nia robim škody. —

### Našy ptuški

*Vierabiejka* piaje viasnoj:  
Žyŭ-žyŭ-žyŭ!  
Zimku pieražyŭ!  
A ŭ chatcy nia byŭ!  
Žyŭ-žyŭ-žyŭ!

# На старонках «Беларуса»

*Беларускае замежжа*

Мы імкнёмся сістэматычна змяшчаць у «Нашым слове» кароткі агляд газеты «Беларус», якая выдаецца ў Злучаных Штатах Амерыкі., На вялікі жаль, рэдакцыя атрымлівае чарговыя нумары са значным спазненнем. Таму мы прапануем кароткі агляд яшчэ толькі красавіцкага нумара «Беларуса».

На першай старонцы газеты змешчана факсімільная копія пракламацыі мэра горада Нью-Йорка Дэвіда Н. Дынкінса з нагоды 25 сакавіка — Дня незалежнасці Беларусі. Пракламацыя заканчваецца наступнымі словамі: «Я, Дэвід Н. Дынкінс, у знак прызнання вялікага ўкладу нью-йоркцаў беларускага паходжання ў разнастайнасць і працвітанне нашага горада гэтым абвяшчаю дзень 25 сакавіка 1991 года ў горадзе Нью-Йорку «Днём незалежнасці Беларусі».

Газета асвятляе візіт у Злучаныя Штаты Амерыкі і Канаду беларускіх парламентарыяў, прадстаўнікоў апазіцыі Беларускага Народнага Фронту ў Вярхоўным Савеце рэспублікі, Зянона Пазьняка, Уладзіміра Заблоцкага і Лявона Баршчэўскага. У артыкуле пад назвай «Лідэры БНФ у ЗША і Канадзе» падаецца асноўная хроніка іх побыту ў ЗША.

Значнае месца адведзена ў нумары II з'езду Беларускага Народнага Фронту «Адраджэнне», які адбыўся ў Менску 23 сакавіка 1991 г. Апублікаваны палітычны даклад старшыні Сойма БНФ Зянона Пазьняка, змешчана «Праграмная заява Беларускага Народнага Фронту «Адраджэнне».

У нумары шмат допісаў, артыкулаў пра жыццё беларусаў у эміграцыі. В. Зубкоўскі расказвае пра 75-гадовы юбілей і выхад новай кнігі вядомага беларускага паэта на Захадзе Міхася Кавыля, дзесяткі вершаў якога пакладзены на музыку. Артыкул Ю. Ляшчынскага «Беласток» прысвечаны святкаванню Дня незалежнасці Беларусі, якое адбылося 23 сакавіка ў беластоцкім філіяле Варшаўскага універсітэта. Невялікі допіс пра 18-ю мастацкую выставу ў Беларуска-Амерыканскім Грамадскім Цэнтры ў Саўт-Рыверы, безумоўна, таксама зацікавіць чытача.

Чарнобыльская бяда застаецца па-ранейшаму адной з галоўных праблем, якія хвалююць беларускую эміграцыю. Ніжэй мы перадрукоўваем з «Беларуса» верш старэйшай беларускай паэткі Наталлі Арсеньевай, за які мы ёй тут, на Бацькаўшчыне, шчыра дзякуем.

### ЧАРНОБЫЛЬ

Весні ранак...  
Ужо на парозе  
я няўзнак прыпыняю хаду:  
надта ж хараша зноўку бярозы  
карагоды на ўзгорках вядуць!  
Іх імклівыя рукі на сіні  
далячынь ткуць празрысты  
вузор.  
Курапаты,  
Чарнобыль,  
Катыні  
ім не засцяць ні вёснаў, ні зор.  
Мне ж...  
скрозь мроіцца іншае ранне:  
хлопчык з пужкаю...  
статак... раса...  
Упершыню ў поле выгнаў ён  
сяння.  
Красавік...  
Люба ў сонца гайсаць!  
Сонца ж скрозь!  
Увачччу, у лазовым  
жоўтым пухам прыбраным галлі,  
і ў шчаснасці той, без назову,  
ад якое аж сэрца баліць!  
І няўпрыцям нікому з худобы  
чалавечай —  
не сонца, а сцень,  
чорны сцень... найчарнейшы...  
Чарнобыль...  
Ужо крые, накрыў іхны дзень,  
што з худой пастушковае  
жменькі  
хутка выпадзе пужка,  
што ён,  
як і безлічы меншых,  
маленькіх  
моўчкі прыйме пакутлівы скон,  
што ўзноў над маёй Беларусяй  
прарасце, забуяе бяда,  
што...  
ды лепей вазьму памалюся,  
да людскога  
і свой боль дадам.  
Божа! Божа!  
Адзіны ў сусвеце,  
што ўсё знае, усё можа,  
зрабі ж,  
каб за нас не пакутвалі дзеці,  
не яны каб,  
а мы неслі крыж!

Наталля АРСЕНЬЕВА.

*Віншуем з юбілеем!*

# ПАЭТ, ЗМАГАР ЗА АДРАДЖЭННЕ БЕЛАРУСІ

*30 верасня спаўняецца 60 гадоў Нілу Гілевічу — выдатнаму беларускаму паэту і перакладчыку, заслужанаму дзеячу навукі БССР, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы, народнаму дэпутату Рэспублікі Беларусь, аднаму з заснавальнікаў ТБМ імя Францішка Скарыны, першаму рэдактару газеты «Наша слова».*

*Творы Ніла Гілевіча шырока вядомы ў нашай краіне і далёка за яе межамі. Прыгадаем тут некалькі яго зборнікаў: «Песня ў дарогу», «Неспакой», «Перазовы», «Лісце трыпутніку», «А дзе ж тая крынічанька», «Актавы», «Повязь», раман у вершах «Родныя дзеці».*

*Ніл Гілевіч плённа і з поспехам працуе ў галіне перакладу са славянскіх моў. Ад балгарскага ўрада пісьменнік узнагароджаны ордэнам «Кірылы і Мяфодзія» I ступені. Чытачы добра ведаюць паэта як пранiклівага лірыка і як вострага, дасціпнага сатырыка і гумарыста. Працуючы на кафедры беларускай літаратуры БДУ, Ніл Гілевіч шмат зрабіў для выхавання нацыянальнай інтэлігенцыі і творчай моладзі. У апошнія гады паэт выступае з вострымі артыкуламі ў абарону беларускай мовы.*

*Віншуем Ніла Сямёнавіча Гілевіча з юбілеем, жадаем яму і надалей творчага неспакою, плёну, моцнага здароўя і нязломнасці ў барацьбе за адраджэнне беларускай мовы і незалежнасці Беларусі.*

*Ніл ГІЛЕВІЧ*

## Лёс і песня

### МАРА СКАРЫНЫ

Марыў калісьці славуты Скарына,
«Цiснучы» кнігі на мове бацькоў:
Простаму люду у роднай краіне
Зробіць даступнай ён мудрасць вякоў.

Толькі радзіму сваю ў ліхалецці
Мара яго абляцець не магла:
Білася роспачна птушкай у клетцы,
Вочы ж бядоты сляпіла імгла.

Думалі: згіне, як статак, нямое
Племя пакорнае ў вечным ярме.
Колькі іх, мужных, што матчынай мове
Шлях пракладалі і змерлі ў турме!..

Ды разгулялася плынь веснавая —
Змыла пакутнай няволі сляды,
І ўстрапянулася мара жывая,
І абляцела ўвесь край малады!

Сталі даступнымі простаму люду
Мудрасці скарбы са свету ўсяго —
Каб ні ярма, ні імглы, ні аблуды
Болей не ведала доля яго!

1965 г.

* * *

Я аглядаў чужыя гарады.
Не нашы помнікі не нашай славы —
І быў ад крыўды зрок слязой засланы,
І біў у скроні думкі ток круты:

Нелітасцівы быў наш лёс, браты:
Красу, што продкі з любасцю стварылі,
Чужынцы з лютасцю агнём сціралі,
Каб не ўцалелі нават і сляды.

Але сціхаў няўчуты крык бяды —
І паўставалі з небыцця нанова
Краса ў абліччы каменя і слова,
Каб зноў зрабіцца прахам праз гады.

І зноў кляліся прадзеды-дзяды:
«Сто раз памром, а не пакінем верыць
У нашу заўтрашнюю славу-веліч,
У нашы заўтрашнія гарады!..»

Даўно нам свеціць дзень наш малады,
Свой новы лёс народ спакойна творыць.
Адкуль жа ў песні праступае горыч?
З глыбінь вякоў: там — бездань гаркаты!

1983 г.

### Ці ачнёмся?

Чужое, разбойнае, хамскае
Гвалтуе, дратуе, таўчэ,
А роднае, свойскае, наскае
Бязмоўна ярмо валачэ.

Пачварнае, дзікае, жорсткае
Крычыць, верашчыць і трашчыць,
А добрае, людскае, боскае
Замоўкла і цяжка маўчыць.

Бяздарнае, брыдкае, бруднае
Сквярэцца, дзярэцца, хрыпіць,
А чыстае, светлае, мудрае
Няйначай заснула і спіць.

Дык, можа, ачнёмся, таварышы?
Апомнімся, братцы-сябры?
Ці будзем, аб вольнасці марачы,
Канаць на бацькоўскім двары?

*З архіваў*

## МАЛАВЯДОМАЕ ІМЯ

Восенню мінулага года споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння беларускага філолага, гісторыка і перакладчыка Канстанціна Пушкарэвіча. На жаль, рэспубліканская прэса абышла гэты юбілей. Праўда, у снежаньскім нумары часопіса «Полымя» за 1990 год быў надрукаваны невялікі, але каштоўны ўспамін Паўла Пруднікава «Паслядоўнік Карскага». Ён пачынаўся так: «Пазнаёміліся мы з ім пры звычайных абставінах. Было гэта ў верасні 1933 года. Я быў тады студэнтам першага курса факультэта мовы і літаратуры Ленінградскага недінстытута імя А. Бубнава. Канстанцін Аляксеевіч выкладаў у нас літаратуру народаў СССР, стараславянскую і балгарскую мовы. Але больш за ўсё запомніліся мне яго лекцыі па літаратуры народаў СССР, у якіх найбольшая ўвага ўдзялялася беларускай і ўкраінскай літаратурам, асабліва беларускай, таму што ён сам быў беларусам, родам з Гродзеншчыны, як і яго настаўнік — акадэмік Карскі. Свой курс лекцый Канстанцін Аляксеевіч заўсёды пачынаў з беларускай літаратуры, з творчасці Янкі Купалы, якога ён бязмежна любіў. Ён неяк прызнаўся мне, што і асабіста добра ведаў беларускага песняра, калі той яшчэ жыў і вучыўся ў Пецярбургу і выдаваў сваю першую кніжку «Жалейка»...

Нарадзіўся Канстанцін Пушкарэвіч у 1890 годзе ў Слоніме. Скончыў Гродзенскую гімназію і Петраградскі універсітэт. Прымаў актыўны ўдзел у работах Гродзенскага гуртка беларускай моладзі і Беларускага навукова-літаратурнага гуртка студэнтаў Петраградскага універсітэта.

У 1919—1922 гадах працаваў выкладчыкам у Томскім універсітэце, а з 1925 года — у Ленінградскім, дзе ў 1940 годзе абараніў доктарскую дысертацыю. Напачатку Вялікай Айчыннай вайны ўзначальваў кафедру славянскай філалогіі Ленінградскага універсітэта.

Канстанцін Пушкарэвіч даследаваў беларускую літаратуру і літаратуру іншых славянскіх народаў. На рускую мову ён пераклаў аповесць Змітрака Бядулі «Салавей» і зборнік апавяданняў Цішкі Гартнага «Трэскі на хвалях». Гэтыя творы выйшлі асобнымі кнігамі ў 1928 годзе.

У альманаху бібліяфілаў Беларусі «Свіцязь» (1989 г.) Генадзь Кісялёў пісаў: «Архіў Л. Бэндэ сведчыць, што яго гаспадар ведаў цану гістарычным каштоўнасцям. У цяжкія дні блакады Ленінграда ён прыняў захады, каб не загінулі беларускія гісторыка-літаратурныя скарбы, якія сабраў у свой час Эпімах-Шыпіла і захоўваў пасля другі ленінградскі вучоны-беларус Канстанцін Аляксеевіч Пушкарэвіч. Нельга без сапраўднага хвалявання чытаць надпісы на «Хрэстаматыі» Эпімах-Шыпілы: «Получ. от Брон. Игн. Эп.-Шипиллы 26.У-34, 2-го июня после второго удара Б. Игн. потерял сознание и скончался 6.VI-34 в 8 ч. утра в больнице им. С. Перовской.

Получено от Конст. Алексеевича Пушкаревича 13.1-1936 г., завещено в собственность 1.1-42 г. Умер К. А. в феврале 1942 г. в гостинице «Астория».

На сённяшні дзень у Цэнтральным дзяржаўным архіве Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Ленінградзе-Пецярбургу знаходзіцца шмат цікавых і арыгінальных дакументаў. Гэта анкета ад 7 лістапада 1922 года, запоўненая К. Пушкарэвічам, асабістая справа аб зацвярджэнні К. Пушкарэвіча ў званні дацэнта (1935—1939 г.г.), справа аб абароне К. Пушкарэвічам доктарскай дысертацыі «Чэхі ў Расіі» (1940 г.) і іншыя.

Усе гэтыя дакументы чакаюць цярплівага даследчыка, каб малавядомае імя слонімца Пушкарэвіча стала з цягам часу ў Беларусі вядомым.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**
**г. Слонім.**

*Культура мовы*

*І. С. РОЎДА*

## Ад формы да зместу, ад зместу да формы

ПРЫСЛУХАЕМСЯ да маўлення тых, хто нас акружае. Якую мову мы чуем: рускую, беларускую? Часам — рускую, часам— беларускую. Але бываюь выпадкі, калі гэту мову цяжка назваць рускай або беларускай. Хутчэй за ўсё гэта «руска-беларуская (беларуска-руская)» мова. Аднак такі фенамен часта зусім не заўважаецца, бо гэтаму спрыяе блізкасць, падабенства слоўнікавага складу дзвюх моў. Для параўнання ўявім сабе чалавека, які гаворыць па-беларуску або па-руску і часта ўжывае пры гэтым нямецкія ці англійскія словы. Такі чалавек адразу б звярнуў на сябе ўвагу.

Як ні дзіўна, але пры вывучэнні беларускай мовы цяжкасці іншы раз узнікаюць з-за блізкасці рускай і беларускай моў, якія маюць многа слоў, падобных па форме (гучанню і напісанню) і аднолькавых па зместу (значэнню). Гэты агульны слоўнікавы фонд часта правакуе атаясаміць і словы, падобныя толькі па форме. Напрыклад, рус. **плот** 'бярвенне, звязанае ў адзін або некалькі радоў для сплаву па вадзе'; бел. **плот** 'агароджа вакол чаго-небудзь'. Рускаму слову **плот** у беларускай мове адпавядае **плыт**, беларускаму **плот** у рускай мове адпавядае **забор**. Такіх прыкладаў даволі многа.

Маўленню па-беларуску часта папярэднічае пераклад у думках з рускай мовы на беларускую (асабліва ў выпадках, калі веданне рускай мовы намнога перавышае веданне беларускай). Прапануем вам для перакладу невялічкія сказы і словазлучэнні, у якіх ёсць падобныя да адзначаных вышэй словы.

Падумайце, які сэнс набывае ўвесь сказ (або словазлучэнне), калі вылучаныя ў ім словы перакласці на беларускую мову тым жа па форме словам.

1. Его **беспечный** образ жизни удивлял нас.
2. Вчера тетя **уехала.**
3. **Бескорыстный** работник.
4. **Благие** намерения.
5. Юг **манит** своим теплом и красотой природы.
6. В этой деревне каждый житель имел какое-нибудь **прозвище.**
7. Детей надо было быстро **увести.**
8. **Сварку** ведет опытный мастер.

А цяпер прапануем вам правільны пераклад на беларускую мову вылучаных слоў і адваротны пераклад іх фармальных эквівалентаў.

1. рус. **беспечный** — бел. бесклапотны
рус. безопасный — бел. **бяспечны**
2. рус. **уехать** — бел. паехаць
рус. въехать — бел. **уехаць**
3. рус. **бескорыстный** — бел. бескарыслівы
рус. бесполезный — бел. **бескарысны**
4. рус. **благой** — бел. добры
рус. плохой — бел. **благі**
5. рус. **манить** — бел. вабіць
рус. врать — бел. **маніць**
6. рус. **прозвище** — бел. мянушка
рус. фамилия — бел. **прозвішча**
7. рус. **увести** — бел. павесці
рус. ввести — бел. увесці.
8. рус. **сварка** — бел. зварка
рус. ссора — бел. **сварка**

Няцяжка зрабіць вывад, што атаясамліванне рускіх і беларускіх слоў толькі па форме можа прывесці да непаразуменняў, калі той, хто гаворыць, мае на ўвазе адно, а той, хто слухае,— іншае, тым больш, што некаторыя падобныя па форме словы маюць не проста рознае, але і процілеглае значэнне (рус. **унести** — бел. **унесці,** рус. **уехать** — бел. **уехаць,** рус. **благой** — бел. **благі**).

Не менш можна прывесці прыкладаў адмоўнага ўздзеяння і беларускай мовы на рускую. Анекдатычна ўспрымаецца пераклад на рускую мову сказа «Конікі трашчалі ў канюшыне» як «Лошади ржали в конюшне». Гэты пераклад магчымы ў тых выпадках, калі «перакладчык» добра ведае рускую мову і не ведае беларускай. Тады беларускае **конікі** асацыіруецца ў яго свядомасці з рускім **кони** (**лошади**), **канюшына** — са словам **конюшня.** А што маглі рабіць **лошади в конюшне?** Слова **трашчаць** «падказала» — **ржали.** Гэты «анекдот» эксперыментальна праверany ў аўдыторыі, якая добра ведала рускую мову і не ведала беларускую. Усе, акрамя аднаго, пераклалі менавіта так, як адзначана вышэй. Другі (адзіны) варыянт перакладу быў такім: **Конники смеялись в конюшне.** Правільнага перакладу (**кузнечики стрекотали в клевере**) не было, што натуральна для такой аўдыторыі.

А цяпер паглядзім на рускую і беларускую мовы з іншага боку, з процілеглага напрамку: не ад формы да зместу (як зрабілі мы гэта вышэй), а ад зместу да формы.

Перад чалавекам, які размаўляе на дзвюх мовах, паўстае праблема, як выказаць адно і тое ж значэнне сродкамі гэтых моў. Псіхалагічна ён настроены на тое, што кожны асобны прадмет ці асобная з'ява ўсяго наваколля можа быць адлюстравана ў асобным слове. Мы, напрыклад, ведаем, што сшытыя лісты чыстай паперы для пісьма, малявання ў беларускай мове называюцца словам **сшытак,** у рускай — **тетрадь.** Такіх выпадкаў большасць. Аднак не заўсёды адны і тыя ж прадметы, з'явы маюць аднаслоўнае выражэнне ў рускай і беларускай мовах. Напрыклад, рус. **перловка** — бел. **ячныя крупы,** рус. **отчитаться** — бел. **даць (зрабіць) справаздачу,** рус. **отчество** — бел. **імя па бацьку,** рус. **опечатка** — бел. **памылка друку,** бел. **млынішча** — рус. **место, где была мельница,** бел. **насоўка** — рус. **носовой платок,** бел. **пакоша** — рус. **скошенный луг,** бел. **сёлета** — рус. **в этом году** і інш.

Як бачым, нягледзячы на блізкую роднасць беларускай і рускай моў, часам яны знаходзяць розныя сродкі (простыя і складаныя) для адлюстравання адной і той жа аб'ектыўнай рэчаіснасці, якая, на жаль, не заўсёды сягоння нас радуе. Розныя мовы ўспрымаюцца людзьмі па-рознаму, а тое, што адлюстроўваюць гэтыя мовы, часта мае адзіны сэнс для прадстаўнікоў усіх народаў нашай краіны, на якой бы мове яны не гаварылі. Гэта, у прыватнасці, датычыцца і той агульнай для носьбітаў розных моў з'явы, якая ў беларускай мове называецца ёмістым словам **агараць.** У рускай мове знаходзім яму толькі аналітычны эквівалент — **кое-как (с трудом) добыть (раздобыть, купить).** Хочацца спадзявацца, што слова агараць будзе ўспрымацца толькі як сродак адлюстравання горкага мінулага.

